ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# Тэхналогія—амерыканская, патэнцыял—беларускі, выгада—агульная

**З вялікай цікавасцю азнаёміўся з артыкулам у «Звяздзе» за 29 мая, прысвечаным прэзентацыі ў Мінску сумеснага беларуска-амерыканскага прадпрыемства «Белпак» і ўдзячны за ўвагу, праяўленую вашым паважаным выданнем да гэтай падзеі. Кіраўніцтва прадпрыемства з павагай ставіцца да выказаных у артыкуле ацэнак перспектыў супрацоўніцтва беларускіх і амерыканскіх дзелавых колаў у рамках праекта «Белпак». Разам з тым, хацелася б удакладніць некаторыя аспекты пытанняў, закранутых у публікацыі.**

Аўтар зусім справядліва аддае сур'ёзную ўвагу аналізу інтарэсаў партнёраў, якія ўдзельнічаюць у праекце. У сённяшнім дынамічным і прагматычным свеце эфектыўнае дзелавое супрацоўніцтва немагчыма без увязвання ўзаемных інтарэсаў бакоў. У артыкуле, аднак, прысутнічае і некаторая зусім зразумелая насцярожанасць з нагоды недастатковага, быццам бы, уліку інтарэсаў беларускага боку ў ажыццяўленні праекта «Белпак».

Справы гавораць больш за словы. Таму нагадаю, што СП «Белпак» першым на тэрыторыі СНД будзе выкарыстоўваць перадавую тэхналогію вытворчасці ўпаковачных матэрыялаў з поліэтылентэрэфталату (ПЭТ), вопыт маркетынгу і магчымасці экспарту гэтай вельмі патрэбнай прадукцыі. Асмелюся заўважыць, што высокая рэпутацыя ў свеце амерыканскіх партнёраў — карпарацый «Пепсі-кола інтэрнэшнл» і «Істмэн Кэмікал компані» — не дазваляе ім звязваць сваё імя з удзелам у сумніцельных праектах. «Пепсі-кола інтэрнэшнл» вырабляе і прадае безалкагольныя напіткі больш чым у 165 краінах свету, яе тавараабарот у 1991 годзе склаў 1,5 мільярда долараў. «Істмэн Кэмікал» — буйнейшы ў свеце вытворца ПЭТу для патрэб упакоўкі. Кампанія таксама выпускае больш за 400 назваў іншых хімічных матэрыялаў, валокнаў і пластыкаў з тавараабаротам за мінулы год у 3,74 мільярда долараў.

Не выклікае сумнення і высокая дзелавая рэпутацыя, узровень прафесіяналізму беларускіх партнёраў — магілёўскіх ВА «Хімвалакно» і шаўковых тканін. Пагадненне аб стварэнні СП «Белпак» прадугледжвае, што з восені 1992 года на базе першага з іх будзе выпускацца ПЭТ і капсулы для вырабу пластыкавых бутэлек пад «Пепсі-колу» ў аб'ёме прыкладна 3,1 тысячы тон прадукту ў год. Палавіну прадукцыі намячаецца рэалізоўваць у краінах СНД, другую палавіну — экспартаваць за канверсуемую валюту ў Заходнюю і Усходнюю Еўропу. Мяркуецца, што ў наступныя 5 гадоў тавараабарот СП «Белпак» складзе 100 мільёнаў долараў.

Цяпер пра інтарэсы. Як справядліва адзначае аўтар матэрыялу ў «Звяздзе», амерыканскія партнёры сапраўды разлічваюць пашырыць рынак збыту сваёй прадукцыі, садзейнічаць больш поўнаму задавальненню растучага попыту насельніцтва СНД на папулярны тут напітак «Пепсі-кола». Разлічваюць, безумоўна, як усе паважаючыя сябе бізнесмены, і на атрыманне прыбытку. Размяркоўвацца ён будзе наступным чынам. 25 працэнтаў дывідэндаў атрымае «Пепсі-кола інтэрнэшнл», столькі ж — «Істмэн Кэмікал», 45 працэнтаў — «Хімвалакно», 5 працэнтаў — аб'яднанне шаўковых тканін. Гэта значыць, у поўнай меры захоўваецца парытэт матэрыяльных інтарэсаў беларускіх і амерыканскіх партнёраў.

Акрамя таго, наша сумеснае прадпрыемства дазваляе злучыць тэхналогію сусветнага ўзроўню і буйныя капітальныя ўкладанні з мясцовымі вытворчымі магутнасцямі і рэсурсамі. Ужо сёння ВА «Хімвалакно» з'яўляецца вытворцам больш за 90 працэнтаў усяго ПЭТу, што выпрабляецца ў СНД. Не выкарыстоўваць гэтую акалічнасць ва ўмовах эканамічнай кан'юнктуры, што пагаршаецца ў краінах СНД, было б з яго боку наўрад ці разумна. З дапамогай перададзенага кампаніяй «Істмэн» «ноу-хаў», а таксама вопыту маркетынгу, магілёўскія хімікі змогуць забяспечыць стабільную работу свайго шматлікага калектыву, набыць дадатковыя рынкі збыту, атрымаць мільёны долараў, так неабходныя сёння для вырашэння многіх вытворчых і сацыяльных праблем.

Але самае, бадай, важнае тое, што «Белпак» кладзе пачатак шырокаму выкарыстанню ПЭТу для патрэб упаковачнай прамысловасці ў Беларусі і СНД. Вядома ж, што, на жаль, да трэці сельскагаспадарчай прадукцыі ў краінах Садружнасці не даходзіць да спажыўца з-за страт пры захоўванні, транспарціроўцы, упакоўцы. Такім чынам, на наш погляд, і ў гэтай сферы наша супрацоўніцтва абяцае добрыя перспектывы для беларускага боку. Бо ПЭТ лёгкі, трывалы, гігіенічны. З гэтага практычнага матэрыялу можна выпрабляць самую розную тару для прадукцыі харчовай прамысловасці.

Накont «аўтарытэтнага меркавання айчыннага спецыяліста», што прыводзіцца ў артыкуле, аб тым, што «пластыкавая бутэлька для Захаду — учарашні дзень», хачу заўважыць: у вытворчасці тары з пластыку і шкла мы сёння не лічым карэктнай альтэрнатыву «або—або». Хутчэй пытанне стаіць «і—і»: і ПЭТ, і шкло. Цяпер 5 заводаў «Істмэна» вырабляюць ПЭТ для пластыкавых бутэлек. Тры з іх знаходзяцца ў Паўночнай Амерыцы, два — у Вялікабрытаніі. К 1995 году аб'ём вытворчасці палімеру для пластыкавых бутэлек узрасце на гэтых заводах да 758 тысяч тон у год. Таму для меркаванняў аб тым, што «пластыкавая бутэлька для Захаду — учарашні дзень», наўрад ці дастаткова падстаў.

Разам з тым, кампанія «Пепсі-кола інтэрнэшнл» валодае перадавой тэхналогіяй вытворчасці шкляной тары і разліву напітку ў яе ва ўсім свеце. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца ў насельніцтва Беларусі 0,33-літровыя шкляныя бутэлькі тыпу «пепсі», што ўпершыню з'явіліся ў СССР у 1974 годзе менавіта па пагадненнях з «Пепсіко». Наколькі нам вядома, скарачаць разліў у шкляныя бутэлькі 0,33 літра кампанія на тэрыторыі СНД не збіраецца.

Але вядома і іншае: попыт на безалкагольныя напіткі ў насельніцтва СНД далёка не задавальняецца, а заводы па іх вытворчасці адчуваюць цяжкасці з забеспячэннем шклатарай. Так што выраб пластыкавых бутэлек з ПЭТу — гэта не «ўдар па шклозаводах», а адзін са шляхоў вырашэння ўзнікшых праблем. Дарэчы, у аграгандлёвай фірме «Вейна» пад Магілёвам пачынаюцца падрыхтоўчыя работы па разліву «пепсі-колы». З вырашэннем праблемы тары папулярны напітак прыйдзе і ў іншыя рэгіёны Беларусі, і яе жыхары змогуць неўзабаве паўней наталяць смагу ў спёку.

Нам асабліва зразумелая заклапочанасць, што праяўляецца грамадскасцю рэспублікі ў сувязі з экалагічнымі аспектамі праекта «Белпак». Пасля чарнобыльскай катастрофы прамысловасць, размешчаная на тэрыторыі Беларусі, павінна быць зарыентавана толькі на вышэйшыя экалагічныя стандарты. Усведамляючы адказнасць за здароўе людзей, кіраўнікі і амерыканскага, і беларускага бакоў праекта зыходзяць з таго, што пры яго рэалізацыі недапушчальнае ўзрастанне экалагічных нагрузак на мясцовае насельніцтва. Падкрэслю, што СП «Белпак» не будзе ствараць новыя хімічныя прадукты. Яго назначэнне — апрацоўка ПЭТу, што традыцыйна выпрабляецца ў аб'яднанні «Хімвалакно». У выніку гэтай аперацыі дадатковых шкодных выкідаў у атмасферу і рабочую зону не адбываецца.

Дарэчы заўважыць, што кампанія «Істмэн Кэмікал», якая прадаставіла СП «Белпак» гэтую тэхналогію, мае высокую рэпутацыю і ў сферы захавання навакольнага асяроддзя. Невыпадкова ў мінулым годзе «Істмэн» перамог у ЗША на конкурсе «Захавай Амерыку прыгожай» — у раздзеле «Бізнес і прамысловасць». Немалыя капіталаўкладанні кампанія ўносіць у вырашэнне праблем перапрацоўкі і другаснага выкарыстання хімічных матэрыялаў, з'яўляючыся буйнейшым у свеце перапрацоўшчыкам ПЭТу.

Згодна з вынікамі даследаванняў, праведзеных незалежнымі экспертамі ў Еўропе і ЗША, ПЭТ з'яўляецца экалагічна найбольш чыстым упаковачным пластыкам. Ён прыдатны для перапрацоўкі і другаснага выкарыстання, а пры спальванні ўтварае бяскрыўдны двухвокіс вугляроду і ваду. Ужо сёння 23 тысячы тон ПЭТу выпрабляюцца заводамі «Істмэн Кэмікал» з 25-працэнтным утрыманнем перапрацаванага матэрыялу. Багаты вопыт кампаніі па збору, перапрацоўцы і другаснаму выкарыстанню вырабаў з ПЭТу будзе з дапамогай СП «Белпак» шырока прыменены і ў Беларусі. Немалаважны той факт, што заробленыя сумесным прадпрыемствам валютныя сродкі могуць пайсці на вырашэнне шэрагу экалагічных праблем, перш за ўсё Магілёўскага рэгіёна.

Мы цвёрда ведаем: з міжнароднай дапамогай у інвестыцыях і прагрэсіўных тэхналогіях Беларусь, якая мае вялікі вытворчы і навуковы патэнцыял, кваліфікаваныя кадры, якая захоўвае палітычную стабільнасць, здольная ў найкарацейшыя тэрміны пераадолець эканамічны крызіс і стаць раўнапраўным членам згуртавання цывілізаваных дзяржаў. І мы гатовы ўнесці ў гэтую высакародную справу свой канкрэтны ўклад.

**Іван ЕФАНАЎ, генеральны дырэктар менеджмента сумеснага беларуска - амерыканскага прадпрыемства «Белпак», генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання «Хімвалакно».**

Sega
СОВМЕСТНОЕ ПРЕДПРИЯТИЕ
ПРОДАЖА МАШИН ЗАПЧАСТИ СЕРВИС

**ЯКІ ҐРАМАДЗЯНІН СНД НЕ ЛЮБІЦЬ ХУТКАЙ ЯЗДЫ?**

**З шыкам, хутка, камфортна любяць ездзіць на ўсіх шыротах. Да паслуг такіх аўтааматараў тое-сёе зроблена і ў нашай рэспубліцы. На праспекце Машэрава ў Мінску сумесныя прадпрыемствы прапануюць для маючых адпаведныя сродкі аўтамабілі лепшых замежных фірм (здымак уверсе).**

**Сумесна з італьянскімі спецыялістамі пры Полацкім заводзе шкловалакна наладжаны выпуск моташлемаў. Высокі камфорт і бяспеку забяспечваюць лёгкія, але вельмі трывалыя матэрыялы. Новыя мадэлі шлемаў на здымку дэманструе прадстаўнік сумеснага прадпрыемства «А Джы Ву-Полспо» ў Полацку сіньёр Джорджа Менін.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

## «ЕНІСЕЛІ» НА ЎЗРОЎНІ... СІВУХІ

ГОМЕЛЬ. Каньяк «Еніселі» — напітак вядомы, марачны — лічыцца адным з лепшых у Грузіі. Па тонкаму букету, арамату, мяккаму смаку ён можа паспрачацца са славутым «Напалеонам». Ведаючы гэта, людзі былі прыемна здзіўлены, убачыўшы яго на паліцах магазіна гомельскага кааператыва «Энергетык». Сумненняў, быццам бы быць не магло: тая ж, што і раней, бутэлька, этыкетка, ды і цана адпаведная напітку такога класа — 235 рублёў за паўлітроўку. Але вось змесціва расчаравала і прывяло ў названы кааператыў інспекцыю па кантролю за якасцю прадукцыі. І тут пачаліся дзіўныя рэчы. Аказваецца, каньяком «Еніселі» тут і не пахне: у бутэльках з фірменнымі этыкеткамі — невытрыманы каньячны спірт. А «водар» не ўступае вядомай сівусе. Закуплена ж было кааператывам гэтага напітку ажно 300 бутэлек па цане 200 рублёў кожная, прычым, у прыватнай асобы. На момант праверкі заставалася ўсяго дваццаць шэсць. Астатнія, значыць, паспяхова рэалізаваны.

Не варта цешыць сябе ілюзіямі, што гэты выпадак— першы і апошні. Мяркуючы па тым, як бескантрольна завозіцца спіртное з былых брацкіх паўднёвых рэспублік, гэта яшчэ толькі пачатак. Пакуль што, праўда, Бог мілаваў ад каньяку з метанолам, хоць хто яго ведае...

**Ігар КАРНЕЙ.**

РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ

# «ЭФЕКТ ПАДДОСЛЕДНАЙ ЛЯГУШКІ»

**Пасля таго, як «Звязда» 9 чэрвеня г. г. змясціла артыкул лідэра апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Зянона Пазьняка «Эфект паддоследнай лягушкі», —у рэдакцыю прыйшло шмат пісьмаў ад чытачоў. Яны з вялікай зацікаўленасцю абмяркоўваюць цяперашнюю палітычную сітуацыю, праблему нацыянальнага адраджэння, прычыны крызісу, у якім апынулася краіна.**

**Змяшчаем некаторыя з допісаў.**

## *Трэба адрозніваць каня ад калёсаў*

**З артыкула З. Пазьняка, надрукаванага ў «Звяздзе» 9 чэрвеня, я даведаўся, што «Культура — аснова эканомікі». Нарэшце зразумеў, чаму, скажам, жыхары з Папуа не вырабляюць фотаапаратаў. З-за іх дзікунскай культуры. Ляпаюць сабе ў барабаны ды твары размалёўваюць. Ім бы апрануць шыкоўныя фракі ды пачаць выконваць сімфанічныя творы Шастаковіча. Адразу б у іх з'явіліся і ўласны метрапалітэн, і фабрыкі штучнага футра...**

Але хопіць кпіць з гэтай фразы. На жаль, яна ў артыкуле не адна такая красамоўная. Паважаны Зянон Станіслававіч. Вы выдатны філолаг, гісторык, але калі Вы не адрозніваеце каня ад калёсаў, у сэнсе хто каго цягне, дык ці не лепш было б, каб Вы ўстрымаліся ад абмеркавання цяжкасцей у эканоміцы. Бо «бяда, калі шавец другі пячы бярэцца пірагі...» Дрэнных дарадчыкаў у нашым парламенце хапае празмерна, навошта Вам з імі раўняцца?

**Сяргей САФОНАЎ, эканаміст.**
г. Жлобін.

## *Багацце духу і дух багацця*

**Пераходны перыяд у рэспубліках былога Савецкага Саюза характарызуецца стратай адных ідэалаў і заменай іх другімі. Нашы суседзі, адмовіўшыся ад камуністычных ідэалаў, прыйшлі, а дакладней, вярнуліся да нацыянальнай ідэі.**

**Не дзіўна, што яны актыўна ўключыліся ў працэс будаўніцтва сваіх нацыянальных дзяржаў. Зусім іншае назіраецца на Беларусі.**

Быццам бы наша грамадства, наша кіраўніцтва адмовіліся ад камунізму як ідэі, але, тым не менш, новых ідэалаў так і не прыдбалі. Утварыўся своеасаблівы духоўны вакуум. Аднак у прыродзе і грамадстве вакууму быць не можа. І таму пустата запаўняецца абыякавасцю, маральнай разбэшчанасцю, спажывецкімі настроямі.

Чаму мы не адчуваем сябе гаспадарамі ў сваім уласным доме і не можам пастаяць за сябе перад «гасцямі» з Каўказа, якія вельмі зарваліся? Адкуль у нас столькі злосці, зайздрасці, крыўды адзін да аднаго? Гэта можна вытлумачыць толькі адсутнасцю ў народа духу, які заўжды грунтуецца на нацыянальнай ідэі. Сёння, на вялікі жаль, беларуская нацыянальная ідэя трывала замацавалася ў свядомасці нязначнай часткі беларусаў. Страта нацыянальных каранёў прывяла народ да раз'яднанасці, дэкансалідацыі, бо не стала самога падмурка, на якім можна было аб'яднацца. Беларусы перасталі адчуваць сябе этнічнай супольнасцю.

У наш складаны час раз'яднанасць беларусаў можа мець надзвычай цяжкія вынікі для самога народа. Дзяржава ўзнікае ў працэсе ўнутранага развіцця, эвалюцыі народа. Раз'яднанаму, пазбаўленаму сваёй уласнай нацыянальнай ідэі народу, як правіла, немагчыма ажыццявіць сваю дзяржаўнасць.

Гісторыя ўсіх існаваўшых на Зямлі народаў,—як вялікіх, так і малых,—гэта гісторыя іх духу, нацыянальнай ідэі. Менавіта гэтым духам можна вытлумачыць актыўную гістарычную дзейнасць народаў, якія змянялі адзін аднаго на працягу тысячагоддзяў. Нацыянальная ідэя натхняе народы на стварэнне самабытнай і адметнай культуры, бо сусветная культура — гэта сукупнасць нацыянальных культур.

Народ з моцнай сілай духу цяжка перамагчы, навязаць яму чужыя парадкі і законы. І, наадварот, калі народ страчвае свае карані, то ён губляе і сілу духу,—тады гэты народ не толькі не здольны да актыўнай гістарычнай дзейнасці, але не можа і абараніць самога сябе.

Такі народ звычайна становіцца лёгкай здабычай іншых, якія навязваюць яму сваю волю. Месца такога народа на задворках гісторыі. Тысячу разоў меў рацыю слынны беларускі паэт сярэдневечча Мікола Гусоўскі, калі пісаў у прадмове да сваёй паэмы «Песня пра зубра»: «Дзяржава апіраецца больш на мужнасць духу, чым на сілу цела, пра што сведчаць як грэкі, так і рымляне».

Толькі ўрад, у аснове дзейнасці якога ляжалі б нацыянальныя інтарэсы Беларусі, можа ператварыць абвешчаны суверэнітэт рэспублікі ў рэальны суверэнітэт. Беларуская нацыянальная ідэя павінна аб'яднаць усіх беларусаў, а таксама прадстаўнікоў іншых народаў рэспублікі, якія трывала звязалі свой лёс з Беларуссю.

Калісьці вялікі расійскі гісторык В. Ключэўскі сказаў: «Вялікі народ не той, якога ніхто не здолеў паставіць на калені, а той, які здолеў узняцца з каленяў на ногі». Перад намі, беларусамі, цяпер рэальна адкрыты два шляхі: альбо мы па-ранейшаму застанемся стаяць на каленях, тым самым асуджаючы сябе на духоўную смерць, альбо ўсё-такі здолеем знайсці сілы, каб узняцца на ногі, выпрастацца на ўвесь рост, на поўны голас паведаміць свету пра сябе. У дэмакратычную цывілізаваную Еўропу мы можам вярнуцца толькі як беларусы, а не як жыхары «Паўночна-Заходняга краю». Гісторыя, можа быць, дае нам апошні шанц.

**Уладзімір КАНАНОВІЧ, гісторык.**
г. Мінск.

## *БНФ— тыя ж бальшавікі...*

**У крытыцы ўсяго і ўся З. Пазьняк, канешне, мае поспехі,—як выкрывальніку яму роўных практычна няма. Тут усё ў яго на вышыні — і дыкцыя, і інтанацыя, і свабоднае валоданне беларускай мовай. Але што ж канкрэтна прапануецца лідэрам БНФ для адраджэння і ўмацавання рэспублікі?**

А практычна нічога. Ды і прапанавана быць не можа, бо З. Пазьняк і большасць яго калег не валодаюць эканамічнай навукай, не ведаюць вытворчасці. Памылкова перавароўваюць усё з ног на галаву. Як бы мы ні крытыкавалі марксісцка-ленінскае вучэнне аб дзяржаве, але цвярозыя людзі разумеюць, што базісам з'яўляецца эканоміка, матэрыяльная вытворчасць, — без іх немагчыма праводзіць незалежную палітыку. Без магутнай эканомікі немагчыма будаўніцтва арміі, выдзяленне неабходных сродкаў для развіцця культуры, навукі, адукацыі і г. д. У З. Пазьняка ж спачатку мова, звычаі, культура, а да эканомікі яшчэ ніхто даходзіць не хоча. Пакуль што на рахунку БНФ акцыі і законы, якія можна было прымаць і праводзіць пад пэўным настроем і якія карэнным чынам не ўплываюць на жыццё ў рэспубліцы. Як бы крыўдна «народафронтаўцам» ні было, але новыя сцяг, герб, рэлігійныя святы, беларуская мова ў рангу дзяржаўнай — пакуль што ўсё гэта дэкларацыі. А рэальнасць, — тое, чым людзі жывуць, — зусім іншая.

Заяўленыя ў артыкуле З. Пазьняком эканамічныя праблемы — пацвярджэнне яго некампетэнтнасці ў эканоміцы і фінансах.

Пераважная ж большасць прампрадпрыемстваў атрымлівае сыравіну з-за межаў рэспублікі. І таму ў многіх балансавая раўнавага: колькі мы вінны за сыравіну, рэсурсы, столькі ж нам вінны за гатовую прадукцыю. Каб быў Саюз, гэта праблема не стаяла б. Або ўжо навязшая ў зубах тэма ўласнай валюты. Упэўнена, што ўсе гэтыя меркаванні папулісцкія. Рубель або талер робіцца ў сферы матэрыяльнай вытворчасці, а не на друкавальным станку. Чым будзе забяспечана наша валюта? Золатам, якога няма? Таварамі — сыравіны для якіх не дадуць Расія, Украіна, Казахстан? Гэта будзе не валюта, а паперкі, хоць і прыгожыя.

Асабліва здзівіла мяне выказванне З. Пазьняка аб нацыянальна-культурнай самасвядомасці беларускай нацыі. Гэта ж трэба так не любіць свой народ, так не ведаць яго! Чым, як не глыбокай свядомасцю сваёй ролі ў захаванні нацыі, культуры, можна растлумачыць паводзіны беларусаў у гады вайны з Гітлерам? Не здаваліся ж на міласць пераможцам цэлымі вёскамі, не было цэлых населеных пунктаў здраднікаў, што, на жаль, назіралася ў іншых народаў Савецкага Саюза. І сёння тых, іншых, пераўтвараем у нацыянальных герояў, патрабуем іх рэабілітацыі, а ўласна беларускі народ, аказваецца, мае нізкую нацыянальна-культурную свядомасць. А пасляваеннае жыццё і работа нашага народа? Хіба можа народ, якому не дарагая Радзіма, Беларусь, так працаваць, так тварыць і ля станка, і за сталом пісьменніка, і за музычным інструментам? Пераважная ж большасць людзей, якія прыязджаюць у Беларусь, захапляюцца ўсім тым, што стварыў беларускі народ і ў тэхніцы, і ў сельскай гаспадарцы, і ў мастацтве! А лідэр БНФ незадаволены нізкай актыўнасцю беларусаў. Калі актыўнасцю лічыць мітынгі, забастоўкі, міжнацыянальныя канфлікты, то, як кажуць, ратуй нас Божа ад такой актыўнасці. Няхай бы назваў прыклад, дзе, у якой рэспубліцы (былой або цяперашняй) такая сацыяльная актыўнасць людзей у апошнія гады прывяла да станоўчых вынікаў, да працвітання або хоць бы да руху наперад. Яшчэ раз скажу: ратуй нас Божа ад грузінскай, армянскай, чэчэнскай і іншай актыўнасці!

Карацей кажучы, красамоўнасць З. Пазьняка абмежавана вузкім колам тэм: КПСС — КПБ — злачынная арганізацыя, «прыхватызацыя», толькі беларуская мова, уласная валюта, армія, рэферэндум.

З. Пазьняк лічыць кастрычнік 1917 года трагічнай падзеяй, калі гурт «злачынцаў», не лічачыся з думкай большасці людзей, у імя ажыццяўлення сваіх інтарэсаў уцягнуў увесь народ у «катастрофу».

Аналізуючы дзеянні БНФ, прыходзіш да думкі, што гісторыя паўтараецца. Зноў гурт людзей на чале з З. Пазьняком, не лічачыся з аб'ектыўнай сітуацыяй, псіхалагічнымі і гістарычнымі асаблівасцямі нашага грамадства, хоча ўцягнуць народ рэспублікі ў новую катастрофу ў імя набыцця ім, З. Пазьняком, улады.

**Валянціна ГВОЗДЗЬ.**

## *Беларусі патрэбен свой П'емонт*

**З цікавасцю прачытаў артыкул З. Пазьняка «Эфект паддоследнай лягушкі» («Звязда», 9 чэрвеня 1992 г.). Згодзен з яго характарыстыкай становішча, якое склалася ў рэспубліцы.**

Хочацца коратка сказаць наконт нацыянальна-культурнага адраджэння на Беларусі. Трапна заўважана ў артыкуле народнага дэпутата, што ніякія эканамічныя праграмы не ажыццявімыя без таго адраджэння. Але як яно адбудзецца і ці адбудзецца ўвогуле, калі народ спіць? Ды і ці ёсць ён зараз — наш народ? Генацыд і вынішчэнне беларускай інтэлігенцыі, асіміляцыя, міжэтнічныя шлюбы і г. д. прывялі да таго, што ў нас ёсць усяго толькі «насельніцтва». У будучым мы можам аказацца нейкім усходнееўрапейскім Ганконгам з укаранёнымі закаўказскімі мафіёзнымі структурамі, вялікай злачыннасцю, дэнацыяналізаванасцю і касмапалітычнай свядомасцю.

У сталіцы ўчыняюцца жудасныя злачынствы, мацнеюць каўказскія групоўкі ў Гомелі, Брэсце, іншых гарадах рэспублікі, — дзе, хто стрываў бы такое?

Правінцыя зрусіфікаваная, а народ у сілу гістарычных абставін не мае нават адзінай рэлігійнай канфесіі. Закон аб мовах не выконваецца і нахабна сабатуецца асобнымі пластамі рускамоўнага насельніцтва.

На працягу апошняга тыдня ў грамадскім транспарце пачуў рэплікі:

Жанчына: «Как услышу слово «спадар», так и харкну в телевизор...»

Мужчына (у адказ на пытанне «Вы рускі ці беларус?»): «А что, есть разница? Я эту вашу мову (беларускую) ненавижу» (заскрыгатаў зубамі)...

І справа не ў такіх асобных выказваннях, а ў агульнай дэградацыі асіміляванага і знясіленага этнасу.

Які ж выхад бачыць З. Пазьняк? «Выхад — у духу», — кажа ён. Але ж выхад можа быць толькі ў нейкім дакладным шляху. Дарэчы, гэта слабае месца не толькі ў артыкуле З. Пазьняка, а і ва ўсіх іншых апошніх «адраджэнцкіх» публікацыях, бо бязвыхаднасць стала нашай наканаванасцю, лёсам. Каб адчуць духоўную, нацыянальную еднасць, трэба яе спачатку назапасіць. А яна, наадварот, змяншаецца.

На мой погляд, выхадаў у нас вельмі мала, а дакладней — два. Першы — зыход свядомага этнасу і стварэнне Рэспублікі Беларусь на нейкіх новых геаграфічных і эканамічных асновах. (Такія прыклады ў гісторыі народаў былі). Тут, дарэчы, і пазбаўленне ад чарнобыльскіх наступстваў. Другі — стварэнне ў межах сучаснай Беларусі нацыянальнага цэнтра, які стаў бы нашым П'емонтам. У гэтым цэнтры (горадзе, вобласці, адным раёне сталіцы, урэшце) сілай закона стварыць нацыянальныя структуры, укараніць мову і забяспечыць прывілеі менавіта для беларускага этнасу.

Вось толькі ці рэальна гэта ў нашых умовах?

**Юры СТАНКЕВІЧ, літаратар.**

# Гараж за 400.000? Няма праблем!

**Размоў у Мінску хапіла надоўга. «Вы чулі: 26 мая Фрунзенскі райвыканком гаражы з аўкцыёну прадаваў! Па чатырыста тысяч! Што гэта, людцы, робіцца — дзе столькі грошай чалавеку ўзяць! Значыць, і гаражы ўжо толькі для спекулянтаў-кааператараў?» і г. д. Калі адкінуць эмоцыі, пытанні ўсё роўна застаюцца. Адкуль у выканкоме з'явіліся гаражы на продаж? Куды пайшлі атрыманыя грошы?**

**За тлумачэннямі карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да намесніка старшыні Фрунзенскага райвыканкома г. Мінска Сяргея ЛУКОМСКАГА.**

— Да ідэі правядзення такога аўкцыёну нас падштурхнуў узрослы кошт будаўніцтва гаражоў. Калі яшчэ ў студзені ён складаў прыкладна 12—20 тысяч рублёў, то зараз трэба гаварыць ужо аб 60—130 тысячах — у залежнасці ад адведзенага месца і іншых фактараў. Такіх грошай, вядома, амаль ні ў каго няма, прынамсі, у людзей, якія некалькі гадоў назад уступілі ў гаражна-будаўнічыя кааператывы і разлічвалі на кошт гаража ў 3—5 тысяч. ГБК-14, у якім і былі прададзены па конкурсу 10 гаражоў, будуецца з 1988 года. Агульнавядома, што гаражныя кааператывы лічацца ў будаўнікоў нявыгаднымі аб'ектамі, і яны ўсяляк зацягваюць тэрміны іх уводу. А час ідзе, і цэны растуць. І што немалаважна — значную частку членаў кааператыва складаюць ветэраны вайны і працы, інваліды — самыя сацыяльна неабароненыя. Як тут быць?

Выйсце знайшлося, калі ГБК-14, што па вуліцы Лынькова, далі дадатковую пляцоўку. З самага пачатку ён быў разлічаны на 200 гаражоў, і тут з'явілася магчымасць пабудаваць яшчэ каля 30. Але як распарадзіцца «лішнімі» гаражамі? Аддаць у агульную чаргу? Толькі ці не лепей будзе, улічваючы, што рынкавы кошт гаражоў вагаецца ад тысячы да трох тысяч долараў, прадаць іх на конкурснай аснове і дапамагчы членам кааператыва пакрыць страты ад росту цэн? Абралі апошняе. Не забывайце, што гаражы тыя— звышпланавыя, і інтарэсы чаргавікоў не закрануты. Калі рашэнне было прынята, ГБК будаваў гэтыя гаражы спецыяльна на продаж, за кошт сваіх рэзерваў.

**— Сяргей Вадзімавіч, а нейкі «свой інтарэс» выканком у гэтай справе меў?**

— Меў. Толькі не свой, а агульны. Выканком атрымаў 40 працэнтаў з прыбытку аўкцыёну. Гэтыя грошы пойдуць мэтавым прызначэннем на капітальны рамонт дарог у раёне. Мы сёлета і так тут нямала зрабілі — за паўгода выканалі аб'ём работ большы, чым за тры папярэднія гады. Але хочацца давесці да ладу яшчэ некалькі вуліц, а расцэнкі на дарожныя работы таксама падскочылі — разоў у пятнаццаць. Адзін толькі раённы бюджэт гэта не пацягне — трэба шукаць дадатковых сродкаў. Наша рашэнне, лічу, не з горшых.

**— Дзе і як праходзіў гэты аўкцыён?**

— Праводзілі мы яго ў Палацы культуры тонкасуконнага аб'яднання па вуліцы Матусевіча сумесна з акцыянерным таварыствам «Прамінвест». Выставілі для пачатку (для першай спробы) дзесяць гаражоў. Стартавыя цэны — 130 тысяч для фізічных асоб і 150 тысяч — для юрыдычных. Зразумела ж, што ў асобных грамадзян і арганізацый зусім розныя магчымасці, што першыя расплачваюцца наяўнымі, а апошнія — па пералічэнню. Таму першыя два гаражы «пайшлі» за 320 і 340 тысяч — толькі для фізічных асоб. Цана астатніх даходзіла да 420 тысяч рублёў.

**— Хто былі пакупнікі? Я маю на ўвазе не прозвішчы і адрасы, а сацыяльную прыналежнасць, і наогул — ці шмат народу ўдзельнічала ў аўкцыёне?**

— Пакупнікі належалі, па ўсім відаць, да прадпрымальніцкіх структур. Удзельнікаў было не надта многа. Уваход быў платны — для фізічных асоб білет каштаваў 150 рублёў, для юрыдычных — 300. Затое гэта былі сапраўдныя пакупнікі, а не проста цікаўныя.

**— Вы задаволены вынікамі?**

— У прынцыпе — так. Мы атрымалі прыбытак каля мільёна рублёў, больш за два мільёны выручыў ГБК-14. Думаю, гэта вялікая палёгка для яго членаў.

Гаражны аўкцыён даў станоўчыя вынікі, і цяпер будзем у іншых гаражных кааператывах адшукваць рэзервы для будаўніцтва гаражоў на продаж. Але гэта павінны быць звышпланавыя гаражы на дадатковых участках і ні ў якім разе не за кошт чаргавікоў. Распачынаць спекуляцыі і папаўняць бюджэт ва ўрон людзям ніхто не збіраецца.

Лічу, што ў сённяшніх умовах трэба больш шырока выкарыстоўваць нетрадыцыйныя метады прыцягнення сродкаў на сацыяльныя патрэбы. Гэты аўкцыён у нас не першы. За два месяцы да яго мы правялі конкурс на права паставіць кіёск дробнай розніцы на плошчы Прытыцкага. Нам жа ўвесь час нясуць заявы на дазвол адкрыць камерцыйныя кіёскі. І амаль усе хочуць менавіта на плошчы Прытыцкага. Як сярод іх выбіраць? Хто больш упадабае?

Мы вырашылі інакш — сабралі іх разам і аб'явілі конкурс. Толькі за права ўстанавіць кіёск, апрача арэнднай платы, жадаючыя плацілі ад 31 да 37 тысяч рублёў. Мы «прадалі» пяць месц.

**— Калі мінскім аўтааматарам чакаць наступнай з вашага боку прапановы гаражоў на аўкцыён?**

— Наконт чыста гаражнага аўкцыёну — пакуль што дакладна не скажу — ёсць пэўныя арганізацыйныя цяжкасці. Але 22 ліпеня адзін гараж на аўкцыёне ў тым жа Палацы культуры выставім. Гэта будзе дабрачынны аўкцыён з удзелам тэлебачання, увесь прыбытак ад якога пойдзе ў раённы фонд «Клопат» — на дапамогі малазабяспечаным, абеды ляжачым хворым і старым, іншыя падобныя патрэбы. З раённага бюджэту ў гэты фонд пералічана ўжо 700 тысяч рублёў, але сродкаў не хапае, і мы вырашылі правесці аўкцыён. Будзе прадстаўлена дэфіцытная прадукцыя (стартавыя цэны ніжэйшыя за дзяржаўныя, бо без гандлёвай надбаўкі) мінскіх прадпрыемстваў, такіх, як завод халадзільнікаў, «Дармаш», «Белпласт», «Мінскпраектмэбля», малых прадпрыемстваў і кааператываў, памяшканні пад офіс, адна кватэра і гараж.

**Значыць, аўкцыёны з іх шалёнымі лічбамі трывала ўваходзяць у наша жыццё? Мажліва.**

**І — ведаеце? — гэта зусім не дрэнна. Трэба, нарэшце, прызнаць, што ў грамадстве з'яўляюцца заможныя людзі, якія могуць дазволіць сабе выкласці за патрэбную рэч вялікую суму, і яны гэта абавязкова зробяць, так ці інакш. Дык што лепей — прымусіць іх шукаць розныя абходныя шляхі і даваць хабар «патрэбным» людзям ці дазволіць траціць грошы адкрыта, каб яны пры гэтым пайшлі на сацыяльныя патрэбы, на карысць найменш забяспечаных членаў грамадства, тых самых, што так абураюцца неверагоднымі аўкцыённымі цэнамі?**

**Аляксандр БЯРСУДСКІ.**

# РОЗГАЛАС

## І СПЯКОТА, І МАРОЗ

**ГРОДЗЕНСКІ РАЕН. (Б. Пракопчык). Словы папулярнай песні аб тым, што ў прыродзе быццам бы няма дрэннага надвор'я, успрымаюцца сёння надзвычай скептычна.**

— Душа баліць, — гаворыць галоўны аграном упраўлення сельскай гаспадаркі Гродзенскага райвыканкома У. Ушкевіч. — Затраціць столькі працы і не атрымаць дастойнага выніку — што яшчэ можа быць больш крыўдным для хлебароба. На жаль, засуха сваё зрабіла. Добра яшчэ, што больш-менш захаваліся дзякуючы паслязімовай вільгаці азімыя. Ураджай ячменю на ўзроўні мінулага года, а ў калектыўным сельгаспрадпрыемстве «Прагрэс» ён складае ў сярэднім ажно 78,2 цэнтнера з гектара. Аднак яравыя пацярпелі вельмі моцна. Паводле папярэдніх падлікаў, іх ураджайнасць у параўнанні з леташняй зменшыцца працэнтаў на 30. Аб бульбе і бураках пакуль што меркаваць цяжка, аднак калі падобнае надвор'е ў бліжэйшы час не зменіцца —і тут перспектывы дрэнныя. Вельмі трывожнае становішча з кармамі. Вынікі першага ўкосу значна больш сціплыя, чым летась. Травы былі нядрэнныя, аднак яны вельмі страцілі ў вазе, паколькі ўсё павысыхала на карані. Што датычыцца другога ўкосу, дык летась яго ў раёне пачалі прыкладна 15 ліпеня. Сёння ж аб другім ўкосе даводзіцца толькі марыць.

Аднак не толькі спякота здзекуецца з хлебароба. У ноч з 8 на 9 ліпеня па раёне (асабліва ў нізінных месцах каля Парэчча і Сапоцкіна) пагаспадарыў мароз. На прысядзібных участках памерзла нямала бульбы, агуркоў.

## БУДЗЕ ВУЧЫЦЦА ДЗЕ І ЧАМУ

МІНСК. З новага навучальнага года каля сарака школ з рускай мовай навучання пераходзяць на беларускую. Тое самае адбудзецца ў шостай і дваццатай гімназіях, школе-інтэрнаце № 5, санаторна-лясной школе № 2. Шэраг школ пераходзіць па прыкладу краін Захаду на профільнае навучанне, а ў школе № 40 нават вырашана адкрыць клас менеджменту з паглыбленым вывучэннем асноў рынкавай эканомікі і клас сучаснага справавода. Акрамя таго, выканком Мінскага гарсавета народных дэпутатаў вырашыў адкрыць з 1 верасня шэсць новых агульнаадукацыйных школ.

## А КАЗЬМА ПРУТКОЎ ПАПЯРЭДЖВАЎ...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Ва ўпраўленні цэнаўтварэння і парытэтаў цэн міністэрства, няйначай, надта сарамлівыя. Намеснік начальніка, вымавіўшы некалькі слоў, раптам спалохалася і пераадрасавала да вышэйшага кіраўніцтва, якога, дарэчы, не было на месцы. Што ж, даруем намесніку, якая, у адрозненне ад нас, добра памятае пра тое, што сказаў незабыўны К. Прутоў, і скарыстаем хоць крыхі, сказаныя ёю па яўнай неасцярожнасці. Такім чынам, ініцыятар павышэння — урад. Усё кругом падаражала, і сельская гаспадарка купляе прамысловыя тавары па дарагіх цэнах. Тарыфы на чыгунцы ўзраслі ў 68 разоў. А ў Мінфіна няма грошай на датацыю...

Аднак падсумуем. Калі мы ўжо накіраваліся да рынку, то нам не пазбегнуць нярэдкіх цэнавых хістанняў (праўда, яны ў нас чамусьці «хістаюцца» толькі ў адзін бок, нават пры той сітуацыі, што мясакамбінаты затаварваюцца і адмаўляюцца прымаць жывёлу. І тут напрошваецца пытанне: што за гэткі дзіўны рынак мы будуем? Але гэта ўжо асобная тэма размовы). Улічым таксама тое, што па сутнасці толькі на сельскагаспадарчую прадукцыю (некаторую) засталіся фіксаваныя цэны, што моцна б'е па сельскай гаспадарцы. Зразумеем. Ва ўсякім разе пастараемся зразумець. Але навошта рабіць з усяго гэтага такі вя-лі-кі сакрэт?

А ў заключэнне яшчэ раз варта нагадаць: з 10 ліпеня ялавічына падаражала ў сярэднім прыкладна на 10 працэнтаў, свініна — на 50, вараныя каўбасы — на 30, белая гарэлка — на 40. На жаль. Інфармацыя не афіцыяльная, а канфідэнцыяльная. Таксама на жаль.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

### ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## «ДА СЮРПРЫЗАЎ БЕЛАРУСЫ ПРЫВЫКЛІ»

**Чуткі чуткамі, размовы размовамі, але людзі ў чэргах (доўгія такія чэргі, якія з'явіліся каля віна-гарэлачных магазінаў раніцай 9 ліпеня) у гэты раз не тапталіся марна. Ужо на наступны дзень гарэлка падаражала на 40 працэнтаў. Адзін толькі Бог ведае, адкуль народ даведаўся пра новы віток узлёту цэн: ні пастановы Савета Міністраў адпаведнай, ні паведамленняў у прэсе — нічога гэтага не было. Мабыць, правільна кажуць старыя, што зямля чуткамі поўніцца. Не пакрыўдзіла карміцелька і на гэты раз, папярэдзіла своечасова самых абачлівых сыноў і дачок сваіх. Ну а астатнія — астатнія засталіся з носам і звыкаюцца ўжо з думкай, што цяпер «беленькую» і мяса на закуску да яе прыйдзецца купляць па новай, больш высокай цане. Толькі і зараз некаторыя з іх гадаюць, да якой такой святочнай даты прызначаўся чарговы сюрпрыз улад. Аднак не будзем распаляцца і паслухаем, што скажуць наконт падаражання людзі.**

**Леанід Сурунтовіч, настаўнік:**

— Шчыра кажучы, я і не ведаў яшчэ, што зноў цэны ўзняліся. Навіна, канешне, не з прыемных: зарплату зафіксавалі, а грошы з кішэні ўсё цягнуць і цягнуць. Мусіць, у нашай рэспубліцы шмат народу, у якога ў засеках кучы «зайцоў» замест мукі. Інакш як растлумачыць дзеянні ўрада? Адно скажу: да такога роду сюрпрызаў беларусы прывыклі ўжо, і як-небудзь адолеюць і гэты. Не паламаліся б толькі паліцы пад цяжарам каўбас і мяса, якіх ніхто не захоча купляць. Я ведаю, што і цяпер шмат мясной прадукцыі выкідваецца на сметнікі. Паглядзім, як будзе далей.

**Ігар Вярцейка, урач:**

— Гэта, трэба думаць, як не першае, так і не апошняе падаражанне. У красавіку 1991 года набралі скорасць і дагэтуль спыніцца не можам. Адно толькі здзіўляе: чаму аб павышэнні цэн не было нічога сказана. У цывілізаваным грамадстве так не робіцца. Няўжо з беларусамі, прабачце, даверлівымі, як цяляты, можна ўвесь час выкідваць розныя конікі? Цярпенне ж не можа быць у рэшце рэшт бясконцым. Надакучылі размовы палітыкаў аб цяжкіх перыядах або часовых мерах. Зрабіце, нарэшце, каб вашы меры знянацку не білі па галовах, а, сапраўды, вялі да дабрабыту.

**Аляксандр Трафімавіч, пенсіянер:**

— Асабіста мне скардзіцца няма на што. Мяса мне не па зубах, а на хлеб з малаком пенсіі хапае. Цяпер можна будзе і на гарэлцы крыху зарабіць: па старой цане паспеў набраць шмат бутэлек. Так што будзем дапамагаць, гандлюючы на рынку, прагнучым.

**Сяргей Бабец, рабочы трактарнага завода:**

— Дзіўна, але мне ўсё абыякава. Каштавала гарэлка 75 рублёў — калі ласка, купім за 75. Падаражала на 40 працэнтаў — таксама будзем набываць, галоўнае каб яна стаяла на паліцах і радавала вока. А што датычыцца мясных вырабаў, дык у мяне бацькі жывуць у вёсцы: ёсць дзе падсілкавацца. Зразумела, карэнным гараджанам у гэтым сэнсе не пашанцавала. Але ж урад у нас дальнабачны, мусіць, усё прадугледзеў. Хочацца верыць, што цяпер замест аднаго ахапка грошай будзем атрымліваць два.

**Падрыхтаваў Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## ДАЙШЛО І ДА НАС

**ЖЛОБІН. Рэха вайны Малдовы дакацілася і да Беларусі. Разам са шматлікімі бежанцамі ў нашу рэспубліку сталі прыбываць і целы загінуўшых землякоў.**

**Не абмінула гэта доля і Жлобін. Днямі на гарадскіх могілках адбылося пахаванне ўраджэнца гэтага горада 29-гадовага В., які, дарэчы, застаўся жывым пасля некалькіх гадоў службы ў Афганістане.**

**Але ж вайна не выбірае.**

## ТАНК—У ПАДАРУНАК?

**У 1988 годзе ў адной з вайсковых часцей знік... танк Т-10-М. Танк не пісталет, не аўтамат — у заплечным мяшку не схаваеш. А тут як праз зямлю праваліўся. І вось прапажа «аб'явілася» — праз тры з лішнім гады. Але па парадку.**

Як расказаў начальнік Віцебскага аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю падпалкоўнік міліцыі М. Казлоў, танк знайшлі ў адной з гаспадарак Расонскага раёна.

— Калі мне пазванілі з Расонскага раёна і паведамілі, што ў адной з гаспадарак ёсць танк, я прыняў гэта за недарэчны жарт, — гаворыць Міхаіл Канстанцінавіч. — Аднак чалавек кляўся, што ўсё — чыстая праўда. Паслаў на месца старшага оперупаўнаважанага па асабліва важных справах, маёра міліцыі Васільева. Сапраўды, непадалёк ад гаспадарчага двара саўгаса «Гарбачова» ён выявіў замаскіраваны танк Т-10-М менавіта той, што знік у адной з вайсковых часцей. Дырэктар саўгаса растлумачыў, што баявую машыну яму падарыў старшы прапаршчык гэтай часці. А пакуль што справа перададзена ў ваенную пракуратуру.

Вядома, адпаведныя службы разбяруцца. Але што гэта за прапаршчык, які можа раздорваць танкі? Ходзяць чуткі, што тут не абышлося без «вадкай валюты», якая называецца гарэлкай. Аднак не будзем гадаць, следства і сапраўды высветліць усе перыпетыі гэтай дзіўнай справы. «Канверсія па-савецку» працягваецца. Якім падарункам ашчасліві́ць чарговы прапаршчык чарговага дырэктара?

**Уладзімір ГОЙТАН.**

### ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

**ХЭЛОУ, КАЗАХСТАН!**

Выйшлі ў свет першыя нумары газеты «Казахстан», якая выдаецца на англійскай мове і прызначана для замежных чытачоў. У планах рэдакцыі — выпуск газеты на некалькіх замежных мовах і распаўсюджванне яе па ўсяму свету.

**«ПРАСЛАВІЛІСЯ»**

Некалькі будынкаў і трамвайных прыпынкаў у Самары былі спісаны антысеміцкімі лозунгамі. Гэты факт стаў вядомы не толькі ў Паволжы, але і ў краінах Захаду. «Дзякуючы нейкім вырадкам Самара цяпер «праславілася» на ўвесь свет», — сумна пажартавалі мясцовыя журналісты.

**МУЗЫЧНА-ЧЫГУНАЧНЫ СЕРВІС**

Новы від абслугоўвання пасажыраў уваходзіць у моду на чыгуначным вакзале ў Астрахані. Цяпер па заказу самадзейны духавы аркестр сыграе перад адыходам поезда любую мелодыю: хочаш — «Развітанне славянкі», хочаш — «Лезгінку». Пасля адыходу поезда музыканты падлічваюць немалыя грошы за дастаўленае задавальненне.

**ЗНАХАРЫ І ЗЛАДЗЕІ**

У лістападзе г. г. у Маскве пройдзе Сусветны кангрэс народных знахароў, на які будуць запрошаны прадстаўнікі акультных навук са 183 краін. Правядзенню кангрэсу можа перашкодзіць адна недарэчнасць — яго арганізатар, камерсант Уладзімір Сінькоў, які знаходзіцца цяпер пад следствам за крадзяжы грошай у асабліва буйных памерах, рызыкуе апынуцца гадоў на дзесяць за кратамі.

**ЗАМЕСТ РУЖ—АГУРКІ**

Упершыню за сваю 125-гадовую гісторыю Адэскі батанічны сад вымушаны зарабляць на жыццё не толькі дэманстрацыяй руж, гваздзікоў і рэдкіх сартоў капусты, але і продажам насельніцтву памідораў і агуркоў, вырашчаных у цяпліцах.

**РУСАФОБІЯ!**

Генеральны пракурор Літвы А. Паўлаўскас абавязаў пракуратуру сталіцы рэспублікі даследаваць абставіны публікацыі ў шэрагу радыкальных выданняў артыкулаў з антырускай накіраванасцю і высветліць, ці няма ў дзеяннях аўтараў і рэдактараў саставу злачынства, прадугледжанага артыкулам 72 Крымінальнага кодэкса Літвы (прапаганда міжнацыянальнай варожасці).

**ПА РЭЙКАХ У КІТАЙ**

Адміністрацыя Хабараўскага краю стала адным з заснавальнікаў акцыянернага таварыства «Залатое звяно», што створана для будаўніцтва расійска-кітайскай чыгункі. Новая ветка злучыць Прымор'е і Хабараўскі край з кітайскай правінцыяй Гірын.

**СПРАВЫ «ЧЫРВОНАГА ПЕЎНЯ»**

Гэтымі днямі ў Маскве быў зарэгістраваны «юбілейны» — 14-тысячны пажар. Гэта толькі за сёлетні год. У такой колькасці пажараў з пачатку года загінула звыш 130 чалавек, а матэрыяльныя страты перавалілі за 47 мільёнаў рублёў.

## Колькі пражыта, колькі выпіта...

Доўгае сямейнае жыццё пенсіянера П. з Бабруйска і яго жонкі закончылася на манер, які стаў ужо трывіяльным — пасля сумеснага распіцця спіртных напіткаў П. забіў сваю жонку. А ўвагу гэта інфармацыя заслугоўвае па той прычыне, што на момант учынення злачынства П. было 96 гадоў — ён з 1896 года нараджэння. Такога кліента бабруйская турма, відаць, даўно не мела.

## Выступленне Міхаіла Мясніковіча на сесіі ЭКАСАС

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і іншых міжнародных актаў, што датычаць грамадзянскіх, палітычных, эканамічных, сацыяльных і культурных правоў.

Міхаіл Мясніковіч падкрэсліў, што першыя крокі на шляху незалежнасці рэспублікі прыходзіцца рабіць у выключна складаных умовах пераходу да рынкавай эканомікі і пераадолення надзвычай цяжкіх вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Пры гэтым яна свядома апіраецца галоўным чынам на ўласныя сілы. Разглядае садзейнічанне з боку сусветнага супольніцтва як істотны фактар, які дапаўняе ўласныя намаганні, перш за ўсё ў структурнай перабудове эканомікі, развіцці недзяржаўных форм уласнасці, канверсіі ваеннай прамысловасці.

Будучы ў Нью-Йорку, Міхаіл Мясніковіч нанёс візіт намесніку генеральнага сакратара ААН па эканамічных і сацыяльных пытаннях Жы Чаожу. У ходзе сустрэчы абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з аказаннем тэхнічнай дапамогі Беларусі.

(БЕЛТА).

# БЫЛІ Б ЖЫВЫЯ КЛАСІКІ...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

настальгія па жорсткай руцэ, якая, маўляў, толькі і здольная навесці парадак. Вядома, многае залежыць ад узгодненых дзеянняў у рамках СНД, прычым мы не павінны забываць, наколькі моцна прывязана наша эканоміка да партнёраў па былому Саюзу і наколькі залежыць ад іх наш уласны дабрабыт. І тут не месца ўрапатрыятычным амбіцыям некаторых палітычных лідэраў, якія гатовы дзеля нацыянальнай ідэі махнуць рукой на ўсё (ці ж не так, як было і раней?). Але пры гэтым, калі мець на ўвазе нярэдкую няўзгодненасць, нежаданне партнёраў па СНД лічыцца з інтарэсамі адзін аднаго, трэба мець і надзейны запасны варыянт.

Аднак вернемся да прадпрыемстваў ці ўжо ў гэтым выпадку да ўзаемаадносін з імі ўрада. Напэўна, не ва ўсім можна пагадзіцца з У. Маркіным. Ёсць падтрымка. Іншая справа, ці на карысць яна прадпрыемствам, усім нам? Тая спіраль, якую раскручваюць цяпер цэны, абавязкова павінна на некім спыніцца, нехта павінен проста выйсці з гульні. Але гэта толькі ў тым выпадку, калі правілы гульні для ўсіх — аднолькавыя, калі не будзе працягнута сацыялістычная рука дапамогі з боку бюджэту, працей— калі не будзе фінансавага падсілкоўвання «крайніх»...

Наш рынак дазваляе ўсё. У тым ліку і падсілкоўванне (нагадаем, яно можа быць толькі за кошт іншых, за кошт тых, хто яшчэ не развучыўся зарабляць сродкі. Бо бюджэт сам не зарабляе, ён толькі збірае). Пра гэта пісалася ўжо. Але, як кажуць, і тым не менш... Неяк непрыкметнай засталася для шырокай грамадскасці пастанова «Аб крыніцах папаўнення ўласных абаротных сродкаў і стабілізацыі фінансавага становішча... прадпрыемстваў...», якая з'явілася ў сярэдзіне чэрвеня. А дарэмна, у ёй нямала адметнага. Ну, напрыклад, тое, што трэба пераафарміць раней выдадзеныя прадпрыемствам крэдыты ў доўгатэрміновыя. Як правіла, на 5 гадоў. І (увага) пад 14 працэнтаў гадавых. Ну, а розніца ў працэнтах — за кошт сродкаў бюджэту. Блакітная мара для многіх камерцыйных структур... Але як быць з інфляцыяй, іншымі непрыемнасцямі? Зрэшты, да падобных рэчаў мы прывучаны ўжо: спрацоўвае ранейшая практыка, сутнасць якой нібыта і гуманная — нікому не даць прапасці. А раскладваем усё на ўсіх пароўну.

Чытаем далей: той прыбытак, які пойдзе на пагашэнне крэдытаў, вызваляецца ад падаткаабкладання (значыць, возьмуць з тых, хто яшчэ крыху дыхае). Праўда, ёсць у пастанове і радкі наконт таго, што трэба абавязкова гарантаваць зваротнасць крэдытаў. А залогам тут павінны быць дзяржаўная маёмасць крэдытуемых і рэшткі сродкаў на бюджэтных рахунках. Тысяча першае кітайскае папярэджанне... Наконт зваротнасці. Але, думаецца, што дзяржава, якая па сутнасці сама ў сябе пазычае (прадпрыемствы ж— дзяржаўныя), абавязкова сама сабе і даруе. Як гэта было ўжо шмат разоў. Адным словам, тут мы будзем мець справу са звычайным пераразмеркаваннем (любімы занятак усіх рангаў кіраўнікоў сацыялістычнага часу). Літаральна перад гэтым давялося размаўляць з работнікамі Нацыянальнага банка, якія падкрэслівалі, што трэба прытрымлівацца жорсткай крэдытнай палітыкі (шчодрыя крэдыты банкаў, якія нярэдка потым спісваліся, адносіліся на так званы дзяржаўны ўнутраны доўг, у многім і садзейнічалі дэстабілізацыі фінансавага становішча, нараджалі ўтрыманскую псіхалогію), што паслабленні могуць быць зроблены толькі сельскай гаспадарцы. Добрыя задумы...

Цяжка сказаць, што ў цяперашняй сітуацыі рабіць таму ж ураду: з аднаго боку — няўмольныя законы рынку, з другога — небяспека апынуцца сам-насам з раз'юшанай плошчай, на якую могуць паклікаць людзей нашы зноў-такі сацыялістычныя свядомасць і псіхалогія, калі ім, напрыклад, будзе аб'яўлена, што іх прадпрыемства — банкрут. З усімі адсюль вынікамі...

Ледзь накіраваўшыся да рынкавага берага, мы апынуліся ў моцным зацяжным віры. Ці выберамся з яго?

Пэўна ж, гэты вір пераадолелі б эканамічна свабодныя вытворцы, вытворцы з поўнасцю развязанымі рукамі. Але гэта, як кажуць, ужо з іншай оперы. А пакуль што зводкі з прадпрыемстваў працягваюць палохаць. Яны папражаюць далейшай дэстабілізацыяй становішча.

Між іншым, мы апошнім часам нярэдка здзіўляемся: чаму, з-за чаго растуць цэны? Але ці варта здзіўляцца? (гл. вышэй).

**Іван БАРАНОЎСКІ, аглядальнік «Звязды».**

## Узяў разведчык чэкісцкую касу...

**Нядаўна «Звязда» апублікавала дакументальны расказ Гордана Брук-Шэперда «Лёс разведчыка» аб жыццёвым шляху нашага земляка, савецкага разведчыка Аляксандра Арлова — Льва Фельдбіна.**

Расказ цікавы. Уражвае багацце фактычнага матэрыялу. Аднак не аб усім расказаў Брук-Шэперд. Сустракаюцца ў расказе і асобныя недакладнасці. Памылковым, напрыклад, з'яўляецца сцвярджэнне аб тым, што грошы, якія меліся ў Арлова-Фельдбіна на момант уцёкаў, 28 тысяч долараў, складалі яго зарплату...

На Арлова я «выйшаў» яшчэ ў 1967 ці 1968 годзе. І адбылося гэта так. Збіраючы матэрыял для кнігі аб К. Арлоўскім «Чалавек з легенды» (у мінулым годзе кніжка выйшла другім выданнем), у адным з маскоўскіх архіваў натыкнуўся на незвычайны рапарт Стрыка (такі быў псеўданім Арлоўскага ў Іспаніі) Арлову.

Незвычайнасць дакумента складалася не ў тым, што камандзір разведвальна-дыверсійнай групы Кірыла Пракопавіч дакладваў начальніку аб унушальных выніках двухмесячнага васьмісоткіламетровага рэйду групы па франкісцкаму тылу. Аб гэтай унікальнай аперацыі я ўжо шмат ведаў са слоў саратнікаў Арлоўскага па ўдзелу ў грамадзянскай вайне ў Іспаніі С. Ваўпшасава і Л. Васілеўскага. Галоўнае заключалася ў прозвішчы начальніка, у Арлове: раней жа ні Ваўпшасаў, ні Васілеўскі, якія ахвотна дзяліліся ўспамінамі, не раз называлі і Арлоўскага, яго і сваіх, вядома, «іспанскіх» начальнікаў — П. Берзіна і Г. Сыраежкіна. Пра Арлова і словам не абмовіліся. Чаму?

— У ветэранаў-чэкістаў не прынята гаварыць і пісаць пра перабежчыкаў - пярэваратняў, — сказаў-адрэзаў Станіслаў Ваўпшасаў.— Да таго ж наш былы начальнік аказаўся нячыстым на руку: пры ўцёках на Захад усю казну чэкісцкую прыхапіў. — Крыху памаўчаўшы, Ваўпшасаў дадаў: — А справу нашу Арлоў ведаў добра, быў добрым спецыялістам па арганізацыі разведкі і дыверсій у тыле праціўніка.

Аб высокім прафесіяналізме свайго былога шэфа Арлова гаварыў і Леў Васілеўскі. «Гэта, канешне, не для друку, але я вам прама скажу: Арлоў быў чалавекам з вялікай эрудыцыяй. У гутарках з ім Міхаіл Кальцоў душу адводзіў».

Аднак вернемся да Арлова, да яго ўцёкаў на Захад. Паводле ўспамінаў С. Ваўпшасава і Л. Васілеўскага, адбылося гэта так.

У адзін з ліпеньскіх дзён 1938 года Аляксандр Арлоў склікаў частку сваіх супрацоўнікаў — К. Арлоўскага, С. Ваўпшасава, Н. Пракапюка, А. Рабцэвіча (усе яны ў гады Вялікай Айчыннай вайны ўзначальвалі магутныя чэкісцкія разведвальна-дыверсійныя фарміраванні і ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза), Л. Васілеўскага і іншых. Аб'явіў ім, што па загаду наркома Яжова на некалькі дзён выязджае ў адну з краін у спецкамандзіроўку. З камандзіроўкі ён не вярнуўся. Як водзіцца ў чэкістаў у такіх выпадках, спецыяльная камісія ўзламала яго сейф. Усе дакументы аказаліся на месцы, але зніклі каля 50 тысяч долараў — усе грошы, прызначаныя на аператыўныя мэты. Затое ў сейфе знайшлі старонку з бегла напісаным тлумачэннем. Сутнасць яго зводзілася да наступнага. Ён, Арлоў, перакананы, што яго выклікаюць у Бельгію, на савецкае судна, якое там стаяла, каб арыштаваць як ворага народа. Ворагам жа савецкай улады ён не быў і, хоць вымушаны ўцякаць на Захад, выступаць супраць яе не будзе. Арлоў прасіў прабачэння, што вымушаны ўзяць з сабой чэкісцкую касу. Выглядае гэта, маўляў, амаральна, але яму трэба на штосьці жыць, а на службу да ворагаў савецкай улады ён не пойдзе.

— І трэба сказаць, што Арлоў стрымаў сваё слова,— у заключэнне гаварыў Л. Васілеўскі.

Ветэран-чэкіст памыліўся. Яшчэ ў 1953 годзе, годзе смерці Сталіна, Арлоў-Фельдбін выдаў на Захадзе кнігу «Тайная гісторыя сталінскіх злачынстваў». Пазней аб займальнай адысеі былога савецкага разведчыка, ураджэнца горада Бабруйска, напіша ўжо вядомы чытачам «Звязды» Г. Брук-Шэперд.

**Ілья БАРЫСАЎ.**

*Тадэвуш Крывеня:*

## «МОЖНА НЕ ХВАЛЯВАЦЦА— ГОЛАД РЭСПУБЛІЦЫ НЕ ПАГРАЖАЕ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**— Атрымліваецца, нехта з'еў мой цукар?**

— Напэўна, так. Але ў ліпені ў вас будзе магчымасць яго купіць. Выдача на талоны — па 2 кілаграмы, і значна больш, чым раней, будзе рэалізавана па камерцыйных цэнах.

Цукар у рэспубліцы ёсць. Украіна нас моцна падвяла з пастаўкамі, затое дапамагла Расія. Узамен за масла, маргарын і згушчанае малако мы атрымалі дастаткова цукру, каб гандляваць ім бесперапынна. Нават сёння прадаём па 30 рублёў за кілаграм, хоць маем права і па 50 рублёў.

Добра пачалі працаваць кантракты, увесь час паступаюць новыя прапановы. Вось у мяне ліст з Расіі — прапануюць цукар па 47 рублёў за кілаграм. Але мы не спяшаемся згаджацца, бо маем прапановы і па 43 рублі і па 41. Трэба імкнуцца купіць танней, прычым не для таго, каб атрымаць большы прыбытак, а каб мець магчымасць танней прадаваць. Паступова прыходзіць разуменне таго, што галоўнае — гэта заваяваць аўтарытэт у пакупніка. Хто пакупніка бессаромна абдзірае, той ніколі не будзе карыстацца павагай і доўга не затрымаецца на рынку.

І яшчэ адно хацеў бы адзначыць: цукар нам цяпер прапануюць за грошы. Менавіта за грошы, а не ўзамен на нейкія тавары. Значыць — рубель запрацаваў. Раней мы павінны былі шукаць нафту, мазут, іншае, лятаць у Цюмень, губляць шмат сіл і часу.

**— Алею нешта не відаць у магазінах, як тут абстаяць справы?**

— Вось з алеем цяжка. Беларусь, як вядома, ніколі не мела ўдосталь уласнага алею, а ў апошнія гады — тым больш. Выпрацоўваецца ўсяго каля 18 тысяч тон рапсавага, у асноўным для тэхнічных патрэб, а спажывае рэспубліка ў год амаль 200 тысяч тон.

Галоўным пастаўшчыком алею заўсёды была Украіна, але сёлета гэта пытанне пакуль што не вырашана. Прыкра, бо якраз пачынаецца перыяд нарыхтовак.

**— Сапраўды, у які рэцэпт салаты ні зірні, усюды — адна шклянка алею, паўтары шклянкі алею...**

— Я не толькі пра хатнія нарыхтоўкі, алею няма і для харчпрома.

**— Значыць, трэба чакаць перабояў з маянэзам і маргарынам?**

— Спадзяюся, да гэтага не дойдзе. Што-небудзь абавязкова прыдумаем, хутчэй за ўсё з Расіяй дамовімся. Знойдзем выйсце і з алеем, і са збожжам, і з усім астатнім. Гэта не галоўныя праблемы.

Галоўнае, што нам перашкаджае, на мой погляд, гэта не адсутнасць рэсурсаў, а адсутнасць належнага кіраўніцтва гандлем як у савецкіх органах, так і ў нашай галіне. Не хапае парадку, які падтрымліваўся б у рамках нейкай структуры.

Калі відавочнай стала неабходнасць рэарганізацыі работы гандлю, урад прыняў пастанову № 87 ад 18 лютага, якая прадугледжвала стварэнне сапраўды рынкавых структур у гандлі. Я лічу, што пастанова гэта добрая (мы таксама прымалі ўдзел у яе падрыхтоўцы), яе рэалізацыя шмат можа даць. Але, калі згодна з пастановай пачаліся ліквідацыя торгаў і трэстаў і стварэнне новых структурных звенняў, гэта работа затармазілася на абласным узроўні. Справа пакуль што зроблена працэнтаў на 40, не больш.

**— Супраціўленне?**

— Хутчэй боязь. Боязь развітацца са старой сістэмай, апасенне, што новыя структуры не будуць функцыяніраваць. Каб я асабіста выконваў гэту пастанову на абласным узроўні, я гэта рабіў бы ў сціслыя тэрміны, а не за паўгода. А так, па сутнасці, справа зацягнута, і пытанне засталося адкрытым.

Аблвыканкомы ў большасці сваёй стварылі абласныя гандлёвыя структуры. Але гэта не тое, бо дзяржканцэрны там цалкам фінансуюцца за кошт камерцыйнай дзейнасці. Атрымліваецца, што гэтыя быццам бы дзяржаўныя структуры не маюць грошай з бюджэту і, адпаведна, улады з іх не могуць спытаць, як са свайго структурнага звяна. Няма кіруемасці, і гэта згубна адбіваецца на валоданні сітуацыяй, тымі ж рэсурсамі. Татальная камерцыялізацыя небяспечная, бо камерсант (такая яго прырода) дбае толькі пра свае інтарэсы, а не пра інтарэсы пакупнікоў і дзяржавы. Асабліва гэта праяўляецца пры нашай неразвітасці рынку.

**— Не сказаў бы, што і дзяржгандаль надзвычай клапоціцца пра народ. Узяць хоць бы мяса — гаспадаркі не могуць здаць жывёлу, бо халадзільнікі і мясакамбінаты перапоўнены, а на прылаўку часта няма з чаго выбіраць.**

— Ну, зараз, калі мяса прадаецца па дыферэнцыраванай цане, у залежнасці ад якасці кавалка, выбар павінен быць лепшым. Да таго ж, пачаў працаваць новы цэх Мінскага мясакамбіната па выпуску паўфабрыкатаў, які дае 6—7 тон штодня, а ў перспектыве — 150 тон.

Але вы ведаеце, па якой цане дзяржава купляе мяса? Кілаграм ялавічыны абыходзіцца недзе ў 136 рублёў. Так што нават узрослыя цэны не пакрываюць нашых страт. Увесь прадуктовы гандаль — стратны.

**— Значыць, мы маем такі рынак, пры якім нявыгадна ні вырабляць прадуктовыя тавары, ні гандляваць імі?**

— Не толькі гэта нявыгадна. Вы паглядзіце, колькі заводаў не працуе ўжо з 25-га. Раней 32 і 33 у месяцы шукалі, а цяпер усяляк скарачаюць выпуск прадукцыі. Канешне, калі заканадаўства не стымулюе працы, трэба яго пераглядаць. Хай парламент падумае.

Толькі вы зразумейце — ніхто ж наўмысна не шкодзіць. Мы яшчэ вучымся жыць нармальна і, вядома, памылкі робім.

Вялікая памылка — тое, што надзвычайным падаткам і падаткам на дабаўлены кошт абкладзены прадпрыемствы грамадскага харчавання. Гэта галіна зараз не развіваецца, яна не ў стане купіць нават гранёныя шклянкі! Сёння студэнцкія і рабочыя сталовыя даюць каля 150 мільёнаў рублёў страт. Уяўляеце — карміць людзей нявыгадна! Калі зараз гэту галіну не падтрымаць, можна вельмі многае згубіць. У грамадскім харчаванні вялікую ролю адыгрывае майстэрства — кухара, кандытара, метрдатэля, афіцыянта. Майстэрства і традыцыі трэба захоўваць.

Урад ставіцца да нашых праблем з разуменнем. Прадпрыемствы грамадскага харчавання карыстаюцца амаль беспрацэнтнымі крэдытамі. Гандаль наогул зараз атрымлівае ад Нацыянальнага банка рэспублікі крэдыт у 5 мільярдаў рублёў. Гэта ў многім выправіць становішча, бо што часам адбываецца: прамысловасць не адпускае тавары, пакуль гандаль іх не аплаціць, а гандаль не мае грошай. Але дапамога дапамогай, а працэнтаў на семдзесят усё залежыць ад нашых работнікаў, іх ініцыятывы і паваротлівасці. Просты прыклад: марожанае. Холадакамбінат затаварaны, збыту няма, хоць нават і не ўсе магутнасці задзейнічаны.

**— Можа занадта дорага?**

— Не. У Маскве порцыя марожанага каштуе 22 рублі, а ў нас — ад пяці да сямі з нечым. Яшчэ па-божаску. Справа ў іншым: у гарачы летні дзень гэтага марожанага яшчэ не ўсюды і купіш. Не парупіліся.

Не ўсе ўмеюць гаспадарыць. Не ўсе хочуць. Прывыклі глядзець на начальства і чакаць указанняў. Павінен, відаць, мінуць час, каб выраслі новыя кадры, галоўная надзея — на маладых.

Нядаўна быў у нас выпадак, эканамічны наш універсітэт папрасіў 75 тысяч рублёў на арганізацыю тыднёвай стажыроўкі студэнтаў у Англіі. Міністэрскія фінансісты былі супраць: навошта? Таксама зразумела — мы ж адміністрацыйная арганізацыя, грошай не маем. Але я дабіўся, каб адно наша вытворчае прадпрыемства знайшло грошы. Бо спецыялісты ў такім узросце, калі светапогляд толькі закладаецца, павінны ўбачыць, як працуюць за мяжой, як арганізуюць гандаль. Хай у іх вочы адкрыюцца. Можа сённяшнія студэнты — якраз з тых, хто зробіць наша жыццё лепшым.

**— Тадэвуш Канстанцінавіч, а як жыве ваша сям'я, дзе вы бераце прадукты?**

— Дзе і ўсе — у магазінах. Праўда, сам я туды не хаджу, затое ходзяць жонка, дзеці. Агароднінай забяспечваю сям'ю сам — вырошчваю на дачным участку. І памідоры, і агуркі, і зяленіва, і многае іншае. Яшчэ ядзім сваю бульбу мінулага ўраджаю. На зіму звычайна назапашваем шмат хатніх кансерваў — жонка добрая гаспадыня, ведае процьму цікавых рэцэптаў. У наш час інакш нельга.

**— Тут з вамі цяжка не пагадзіцца. Дзякуй за гутарку.**

**Аляксандр БЯРСУДСКІ.**

## Які беларус не любіць хуткай язды? І ўсё ж

Сумна становіцца, калі глядзіш на табліцу забеспячэння дарогамі агульнага карыстання некаторых краін Еўропы і Азіі. Калі ў Германіі на кожную тысячу жыхароў прыпадаюць 8 кіламетраў такіх дарог, у Вялікабрытаніі — 6,2, у Японіі — 6, а ў Францыі — нават 13,6, то былыя краіны СНД яўна адстаюць. Украіна са сваімі абсягамі мае 3 кіламетры дарог на тысячу жыхароў, Казахстан са шматлікімі стэпамі — 4,8, Расія, славутая сваёй «бездаражжу» яшчэ з даўніх часоў, і цяпер прапануе толькі па 2,6 кіламетра на кожную тысячу. А што ж Беларусь, якая знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, і, мяркуючы па ўсім, павінна была б «уцерці нос» сваім суседзям? Амаль чатыры з палавінай кіламетры — вось і ўсё, што ў нас ёсць. Улічваючы той факт, што зараз будаўніцтва аднаго кіламетра высакаякаснай дарогі каштуе каля мільёна рублёў, хуткага прагрэсу ў гэтай справе наўрад ці дачакацца. Па сярэдняй хуткасці руху Беларусь знаходзіцца, прабачце за каламбур, «у сярэдзіне»—55 кіламетраў у гадзіну, у той час як у Расіі — 30, а ў краінах Еўропы — 80 кіламетраў у гадзіну. Агульны ўрон ад нездавальняючага стану дарожнай сеткі ў краінах СНД за мінулы год склаў амаль 25 мільярдаў рублёў. Цікава, колькі грошай дзеля добраўпарадкавання дарог было выдаткавана на Беларусі? Ці не лепш з самага пачатку будаваць дарог больш і больш надзейна?

## Калі ткачыхі спалі

**СЛОНІМ. Пакрыўджаны ткачыхі фабрыкі «Тэкстыльшчык». Калі раніцай яны з'явіліся на работу, адразу ж адчулі: нешта не так. Праўда, шмат часу на пошук «нечага» не спатрэбілася. Справа ў тым, што невядомыя злыдні ноччу зрэзалі са станкоў вытканыя пакрывалы і знеслі. Расчараваным ткачыхам толькі і застаецца гадаць, што за «злая сіла» тут папрацавала.**

## Рынак і культура

**ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. За апошні час у вобласці спыніла сваё існаванне 41 бібліятэка, 4 музычныя школы, 75 клубаў, шэраг кінаўстановак. Вось такім чынам рынкавая эканоміка ўплывае на стан культуры.**

